Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!
1931
XVIII

# Чырвоная Беларусь

Кастрычнік
Лістапад
№ 20-21

Днепрапятроўскі завод мэталюргічнага абсталяваньня

На здымку: агульны выгляд работ на аднаўленьні домны

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ

ЗЬМЕСТ:

Фабрыка чалавекаў — С. Бройдэ. Кастрычніцкае слова — Т. Алесін. Андрэй Шышкоў — П. Броўка. Камунар — Т. Курбацкі. Адзін з многіх — Юр. Лявонны. Біографія байца — П. Швэйдэль. Песьня пра паравоз — Юр. Бітус. Перамога на пуцях — С. Галаеў. Лесатэхнічны інстытут у Гомелі. Я. Вястовіч. Бібліографія. Шахматы.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

1931

Кастрычнік
Лістапад
№ 20-21






## Забясьпечым датэрміновы пуск Уралмашбуда



На будоўлі сталяліцейнага цэху

# Фабрыка
# ЧАЛАВЕКАЎ

**С. БРОЙДЭ**

...У Маскве, у Таганскім папраўчым доме рашылі стварыць
батальён фабрычна-заводзкага вучнёўства. Ініцыятыву ў гэтай
справе праявіў пазбаўлены волі Крумінскі, які стаў першым
камандзірам батальёну. Ён склаў сьпіс з 75 чалавек няпоўна-
летніх злачынцаў, якія павінны былі ўвайсьці ў склад батальёну.
Над гэтым спачатку насьміхаліся, але Крумінскі з уласьцівай
яму энэргіяй працягваў пачатую справу і к канцу 1930 году
дабіўся свайго. Батальёну былі адведзены шэсьць лепшых
камер у агульным корпусе, туды пастаўлены былі новыя ложкі,
здабылі новыя коўдры. Пашыта была форма, па ўзору, за-
цьверджанаму адміністрацыяй, абмундзіраваньне было разда-
дзена і батальён пачаў жыць. Няпоўналетнія злачынцы, у міну-
лым рэцыдывісты, ва ўзросьце ад 15 да 18 год, зладзеі, кі-
шэньнікі павінны былі даказаць, што яны ўмеюць працаваць,
вучыцца і што яны, у адказ на клапоты аб сабе, пакажуць,
чаго яны варты.

Абставіны, у якія яны папалі з адзіночнага корпусу, былі
для іх спачатку нязвыклымі. Яны хадзілі па калідору, адчу-
ваючы сябе чужымі. Але паступова іх уцягвалі ў масавыя
гурткі, у іх выклікалі зацікаўленасьць да работы. Спадарожна
ішлі практычныя заняткі па сьлесарна-кавальнай справе. Не
забываліся і аб фізкультурных гульнях. Стварыліся свае: біб-
ліятэчны актыў, санітарны гурток, шахматны гурток, гурток
вайсковых ведаў і г. д.

З першага складу батальёну ў мяне асабліва астаўся ў па-
мяці рэцыдывіст Перлоў. У мінулым ён шмат разоў судзіўся.
У батальёне Перлоў рэзка перарадзіўся. Хутка зьвярнуў на
сябе ўвагу таварышоў і неўзабаве Перлова назначылі коман-



У майстэрні за працай

дзірам батальёну ФЗВ. Уплыў Перлова на падлеткаў быў да-
волі прыкметны. Вучэбна-выхаваўчая частка надала шырокія
поўнамоцтвы командзіру батальёну. Перлоў меў права дадзе-
най яму ўладаю накладваць дысцыплінарныя пакараньні, якія
ўжываліся за парушэньне правіл ўнутранага распарадку ба-
тальёну. Старыя звычкі ні разу не заўважваліся за Перовым.
Ён першы канавод на рабаваньнях на волі, стаўся адным
з застрэльшчыкаў грамадзкасьці ў турме. Вакол яго організа-



Група няпоўналетніх пазбаўленых волі

ваўся актыў. Перлоў атрымаў водпуск на два дні на волю—
гэта было рызыкоўна з боку адміністрацыі, але ён бліскуча
апраўдаў давераньне. Пунктуальна праз два дні к паказанаму
тэрміну падлетак Перлоў—камандзір батальёну зьявіўся ў
турму. Па вучобе Перлоў ішоў адным з першых. На выпуск-
ных іспытах Перлоў атрымаў кваліфікацыю сьлёсара 5-га раз-
раду. Вось ён прад маімі вачмі: сярэдняга росту, з ярка-руда-
ватымі валасамі, шэрымі выпытальнымі вачыма, складны. Мне
давялося чуць ад яго таварышоў, што на волі Перлоў, праявіў
вялікія здольнасьці буйнога злодзея. Ён настолькі абмеркавача
складаў плян сваіх зладзейскіх спраў, што яны рэдка скanча-
ліся нятрапна. Тым больш дзіўным здавалася перараджэньне
Перлова ў турме. Спачатку ніхто ў гэта не верыў. Але з кож-
ным месяцам Перлоў рабіўся ўсё больш замкнёным, загаварыў
зусім новаю мовай. З прагнасьцю накінуўся ён на кніжкі.
Яго організатарскія здольнасьці, энэргія, прыродная кемкасьць
і здагадлівасьць пераключыліся на вучобу. Чалавек перара-
дзіўся.

А вось і другі радавы батальёну Карталінскі,—адзін з славу-
тых маскоўскіх кішэньнікаў. Гэта быў чалавек, які ўмудраўся
з такой лёгкасьцю і профэсыянальнай „далікатнасьцю“ абкрад-
ваць людзей, што выклікаў захапленьне нават у сваіх тавары-
шоў. Быў распачліва сьмелы, і лічыўся неўлавімым Крымі-
нальным Вышукам былі пасланы агенты, каб яго злавіць. Але
пападаліся тыя, хто „працаваў“ з Карталінскім, сам-жа ён
увільваў. Калі хмары згусьціліся над яго галавою і ня было
такой кватэры, дзе-б за ім не сачылі, ён высьлізнуў з Масквы.
Высокага росту, з агатавымі вачмі, з фігураю добрага аматара
спорту, ён наўрад ці могбы выклікаць у каго-небудзь пада-
зронасьць у сваёй прыстойнасьці. Адзяваўся далікатна, заўсёды
быў сур'ёзны, скупа выкідваў словы. Здавалася, што гэты
юнак добра выхаваны, вытрыманы, дысцыплінаваны.

Карталінскага ў канцы канцоў злавілі.

У турме ён „забузіў“. З першых-жа дзён спрабаваў згурта-
ваць вакол сябе групу кампатаў-рэцыдывістаў. Адміністрацыі
прышлося павазіцца з Карталінскім, перш чым ён згадзіўся
працаваць. Уплыў яго на таварышоў быў такі вялізарны, што
работа зараз-жа развальвалася там, дзе ён зьяўляўся. Зусім
другім стаў Карталінскі, калі яго перакінулі ў батальён.

У яго нечакана зьявілася палкае жаданьне вывучыць аўто-
трактарную справу. Але ў програме ФЗВ аўто-трактарнай
справы ня было; тады ён стаў у вольны час наведваць аўто-
рэмонтныя майстэрні Таганскай турмы. У бібліотэцы ён пра-
чытаў усё, што знайшоў аб аўтомобілях і трактарах. Вучыўся
ў ФЗВ кавальнай справе, скончыў школу малатабойцаў па трэ-
цяму разраду. Вучоба ў ФЗВ была для яго трамплінам да аб-
любёнага аўтотрактару.

Цяпер Карталінскі працуе на заводзе „Фэзэр“. Сумеў ужо
праз некалькі дзён пасьля свайго выхаду на волю паступіць на
аўтотрактарныя курсы.

За Карталінскім і Перловым ідзе Каралёў—бледнатвары юнак
са сьветлымі валасамі, худзенькі, з глыбока ўпалымі вачыма і
высокім ільбом. Ён здаваўся замкнёным, маўклівым, рэдка
ўхмыляўся, адказваў дзелавіта—па-вайсковаму коратка.

Каралёў падняў дысцыпліну на славу ў сваім батальёне, што
складзен з няпоўналетніх злачынцаў. Яму—камандзіру—усяго
дванаццаць год.

Каралёў сумесна з Карталінскім і Перловым уваходзяць у
склад штабу батальёну—гэта мозак яго. Гэта тройка трымае

# Кастрычніцкае СЛОВА

Верш
ТОДАРА АЛЕСІНА

У нас
не заплаканыя вочы,
што шлях быў
крывавый касьцісты,
бо мерлі
за волю рабочых—
сыноў
зямлі балацістай.

Сягоньня
ўрачыста
прыпомнім мы
шлях свой
пройдзены й
перажыты
і тых,
хто
ўміраў у полымі,
ў хвалях
варожага іпрыту.

Мне-б
здольнасьці іх
і гартованасьць
зрадніць
з індустрыйнай песьняю,
каб быць нам
заўсёды гатовымі
у бой
за сусьветную Прэсьню.

У нас
не заплаканыя вочы,
што шлях нам
рыхтуюць касьцісты.
Мы пойдзем
за ўладу рабочых
утройчы
агністымі.

Хай толькі
насунецца хмараю
здань
крыважэрнай Эўропы—
мы нарадзіліся
у пажарах
на перакопах.

30-Х—31 г.
Менск.





Трактары гатовы да адпраўкі ў сацыялістычны сэктар Саюзу ССР.
Сталінград, трактарны гігант.



Талачын. Колгас імя XII зьезду КП(б)Б. Малацьба аўса.

КРАІНА ПАВІННА ВЕДАЦЬ СВАІХ ГЕРОЯУ

# АНДРЭЙ ШЫШКОЎ

НАРЫС ПЯТРУСЯ БРОЎКІ

Цікава, што пачалося з дажджу. Позьняя вясна страсанула хмарамі ў маі і буйныя кроплі вады цяклі раўчакамі па грудзях зямлі, па дахах, па пасялковай дарозе, па фабрычным двары.

Андрэй Шышкоў, захутаўшыся ў брэзантовы плашч, сьпяшаўся ў свой мэханічны цэх. Прызначанаму нядаўна з сьлесароў у загадчыкі яму хацелася паказаць як трэба наладзіць работу мэханічнай майстэрні, каб ня было скаргаў на рамонт і спасылак на тое, што мэханічны зрывае плян. І ў галаве ў яго як мітульга кропель у паветры мітусіліся думкі пра фабрыку. 110 тон паперы—гэта толькі сутачнае заданьне. А колькі мы даем: 25—30.

Чаму?

Спасылак было многа. А больш на тое, што торп падаецца няспраўна.

— Яно і праўда,—развважаў Андрэй,—трэба, скажам, у суткі 350 вагонаў выслаць з пагрузачнай, а высылаецца толькі 180—190. Вось і пустуюць часта бункяры на сілавой. Спыняецца рух машын. Застывае белая стужка паперы на барабанах. Маўчыць фабрыка.

Андрэй прайшоў асьлізглыя дзьверы канторкі і вышаў на фабрычны двор. Дождж бязьлітасна цадзіў як з вядра. На двары ляжала шмат жалезнага ламачча, скінутага ў няхлюмяжныя кучы, і гінула задарма. Раптам зрок Андрэя ўпаў на невялічкі паравоз, што стаяў у канцы двара. Маланкай пранеслася думка, прарэзала Андрэеву памяць. Ён падышоў да паравозу, які стаяў сярод гор ламачча абадраным, разьбітым, нярухомым, як мярцьвяк.

Андрэй падышоў, памацаў пранты, пашчупаў колы, якія на палову пазаросталі травой. Твар яго пакрыўся маршчакамі, потым ажыў. Ён высака ўстрахнуў галавою і быццам з кім гаворачы сказаў гледзячы на паравоз:

— Трэба цябе ажывіць!

Фабрыка „Герой Працы" перайшла на мясцовы тарпяны апал. Была пабудавана падвясная дарога на працягу 8 кілёмэтраў ад пагрузачнай да фабрыкі. Па тросах яе павінна было прабягаць у суткі 350 вагонак, нагружаных торпам, каб бесьперабойна давалася сіла машынам, каб тыя сваімі накатамі накручвалі ў суткі ня менш 110 тон паперы. Але бяда ў цягавай сіле. Ад балотнага масыву да пагрузачнай каля 2-х кілёмэтраў. Гэтую адлегласьць торп трэба падвозіць паравозам. Паравоз, які працуе цяпер на пагрузачнай, няспраўны, дыхавічлівы, ня можа доўга трымаць пары. Ідзе, ідзе, запхнецца, пакашляе густымі клубамі пары і стане. Стаіць тады пагрузачная. І галодныя пасткі бункяроў смагна чакаюць ежы.

На думку Андрэю ўсплылі словы сакратара парткому, што матавозы, якія абяцалі даць з Масквы, забралі на Магнэсабуд і што застаўся на пагрузачнай толькі той хворы паравоз, які ня можа падвозіць колькі трэба торпу з балота, каб накарміць бункяры сілавой.

У гэты час па тросе падвеснай дарогі прабегла вагонка і спынілася, зарыпеў, замуліўся каля слупоў і сьціх трос... А з сілавой станцыі глыбокія пасткі топак быццам прасілі бясконца ежы, здаровым арганізмам гудзелі: дай!.. дай!..

І вырас перад Андрэем малюнак пагрузачнай станцыі:

— Пустыр. Гарачае сонца. Як сонца гарачы і жоўты пясок. Два баракі, як дзьве згубленыя каробкі ад запалак на полі. Стаяць рабочыя каля пагрузачнай станцыі з перакошанымі тварамі і пустымі рукамі, стаяць і ня ведаюць, што рабіць.

А на балоце за дзьве вярсты ад пагрузачнай станцыі стаіць брыгада Барабанавай. Стаіць і сама Барабанава, вяртлявая дзяўчына-камсамолка, поўная запальнасьці і энтузіязму. Стаіць, бо ўжо поўна нагружаны вагонкі, а адвезьці некаму, бо змоўк быццам ахамянеў паравоз і ня цягне вагонак, якія даўно ўжо насыпаны, а цяпер некуды брыгадзе Барабанавай сыпаць торп. Няма парожніх вагонак.

І Барабанава і яе брыгада таксама стаяць злоснымі, з перакошанымі тварамі. Чуе Барабанава, што спыніліся машыны на фабрыцы, бо не хапае паліва, бо як гад змоўк паравоз, быццам нарачыта ня хоча адвозіць торпу. А брыгадніцы хваляцца:

— Барабанава!. Барабанава!.. мы-ж перавыканалі норму, чаму-ж ён не вязе?

І злуюцца брыгадніцы на балоце, што хворы паравоз зрывае іх плян...

І ў роспачы брыгаднікі з пагрузачнай, што паравоз зрывае іх плян...

І ў адчаі брыгаднікі каля папяровых машын, што паравоз таксама зрывае іх плян...

А паперы замест 110 тон—усяго толькі 30 тон. Гэта-ж сорам!

І ўсё гэта так перакруціла і перапаліла Андрэя, што ён ня чуў нават дажджу, закапорхаўшыся каля паравозу на фабрычным двары.

Позна за поўнач кінуў ён мацаць перажаўленыя, мокрыя, асьлізглыя часткі паравозу. Ён адчуў, што гэты паравоз, які стаіць цяпер мёртвым, можа выратаваць на многа прамфінплян фабрыкі, і ў галаве паўставалі тысячы меркаваньняў, як ажывіць яго. Ён уяўляў ужо нескарыстаныя шрубы ў складзе мэханічнай, заржаўленыя, але здаровыя шчыты, што стаяць каля сьценкі ў такарнай, нескарыстаныя рашоткі ў ліцейнай... І ўжо ў галаве Андрэй адразу паскладаў гэтыя часткі да купы і здалося яму быццам выбег ягоны новенькі, моцны, наноў афарбаваны паравоз і памчаўся па рэйках на балота па торп, на пагрузачную...

У мэханічную майстэрню ён прышоў, калі другая зьмена ўжо адыходзіла да хаты. На лесьніцы ён затрымаў майстраў Саньнікава і Барбарыча. Затрымаў і напалохаў нячуваным ускрыкам:

— Хлопцы, жыць будзем!..

— Што ты вярзеш... Чаго ты?—спыніўшыся запытаў Барбарыч, а спакойны Саньнікаў прыжмурана ўгледзеўшыся на Шышкова сказаў:

— Чаго ты вечна такі шалёны?

Андрэй паклікаў іх у бок і расказаў як ён мяркуе адрамантаваць стары паравоз. Доўга сядзелі яны разам, думалі, дзе і што ўзяць, але парашылі паравоз амаладзіць.

Так нарадзілася брыгада. Майстра Саньнікаў, Барбарыч і сам Андрэй Шышкоў.

Назаўтра прышлі ліцейнік Назарыч, токар Жывапісцаў і яшчэ некалькі рабочых.

Пачалі працаваць па выхадных днёх. Сядзелі ў рабоце так, што ня бачылі ні зьмен, якія праходзілі каля майстэрні, ні часу на полудзень і вячэру.

Стары ліцейшчык Назарыч, які раней часамі любіў крыху выпіць і прапусьціць які дзень на працы, цяпер сядзеў неадыходна каля ліцейнае печы літаральна па 24 гадзіны.

Рабочыя проста дзіваваліся:

— Што стала, што зрабілася са старым Назарычам? Не спазнаць яго дый годзе!

Вось як перарабляла ўдарная праца людзей.

А адміністрацыя і галоўны мэханік Забубёны жартавалі:

— Што вы надумаліся, час толькі губляеце. З гэтага нічога ня выйдзе.

І калі зьвярнулася брыгада атрымаць кілё цьвікоў з аддзелу забесьпячэньня, дык цьвікоў не давалі на працягу тыдня.

І толькі тады, калі ўбачылі, што паравоз пачаў ажываць, паверылі энтузіязму брыгады. Пачалі нават падганяць. Вызначылі тэрмін: скончыць паравоз 10-га жніўня.

А ўдарнікі парашылі інакш. Яны забыліся на былыя абразы і недаверлівасьць і высунулі сустрэчны:

— Паравоз скончым 1-га жніўня!

А ўжо 29 ліпеня паравоз быў гатовы. Бегала каля паравозу брыгада, што пусьціла яго. Яна хварэла за кожны шрубік у ім.

Паўстала пытаньне як загнаць яго на пагрузачную. 8 кілёмэтраў па дарозе, дзе пясок па забарсьні, а паравозу па калена. І тут надумаліся ўдарнікі. Ранейшы паравоз, што працуе цяпер на пагрузачнай, цягнулі сотні людзей і коні, падкладалі дошкі, па дарозе стаяў шум і гам, а яны зрабілі вельмі проста. Знашлі на двары 4 старых лёкамабільных колы, зрабілі з іх калёсы, падчапілі адным трактарам і завезьлі на месца.

---

Многа сходаў бывае на фабрыцы „Гэрой Працы". І часта з агульнымі лёзунгамі:

— д а е ш 110 тон!..

А як ліквідаваць прарыў канкрэтна гаварылася мала.

Тады загаварыла рабочая маса сваім здаровым, рабочым нутром, доўгаю практыкай, спрытным розумам і моцнымі рукамі. Пасыпаліся рабочыя прапановы:

— паставіць млынок „жардан" на 6-й самай большай машыне, каб драбней малолася мяса.

— Ачысьціць катлы на стара-сілавой станцыі, каб яна магла даваць энэргію на выпадак прастою новай.

— Ускласьці адказнасьць на пазьменных майстроў за брак.

— Арганізаваць падвозку торпу конямі.

Хвалі рабочых прапаноў узьнялі адміністрацыю, фабком і другія арганізацыі. Пачаліся вытворчыя нарады, вечары прапаноў і арганізм фабрыкі пакрысе пачаў здаравець. Процант выпрацоўкі паперы павялічыўся на 20—30.

Фабрыка „Гэрой працы" можа даць 110 тон паперы ў суткі. Пра гэта гаворыць абсталяваньне фабрыкі, энтузіязм рабочых, іх практычнасьць і вынаходзтва.

Трэба толькі гэтую энэргію арганізаваць так, як арганізаваў яе Андрэй Шышкоў.

## СКУЛЬПТУРА З. АЗГУРА



У. І. Ленін.



Г. В. Плеханаў.

**ТАМАШ КУРБАЦКІ**

# Камунар

У сьцюжы, згвеі
гадоў векапомных
Ён быў у атаках,
ён браў Перакоп;
З наганам і пікай
на ворагаў цёмных
Рашуча, нязломна
імчаў ўгалёп.
Гады адшумелі
разьюшаным шквалам,
Замоўклі гарматы
у пушчах, далінах.
Паклікала раньне
з пажараў навалы
На фронт
будаўніцтва краіны.
Ён скончыў атакі,
да роднай хаціны
Прышоў у падранай шынэлі.
І ў нэрвах мяцежыў
уздым сакаліны,
Упартасьцю вочы гарэлі.

* * *

Ён паклікаў і лепшых і шчырых
Да супольнае, творчае працы.
Разьвярнуліся
плечы шырай
Грамадою тварынь,
змагацца.

Непарушны,
упарты, няўтомны,
Як калісьці ўзброены пікай.
Зазьвінелі ў пушчы цёмнай
Песьні гарту, сякеры, крыкі.

За сасною лажыцца сасна,
Адкідаючы буйныя вецьці.
І шуміць малады сасьняк,
І з вачэй шчырасьць цёплая
сьвеціць.

Маладыя яны цесьляры
Скалыхнулі абшар багунны.
Сосны рэжуць, сякуць
ад зары,
Маладую будуюць комуну.

І адвозяць пахучыя дрэвы
На прасторы палёў багатых;
Дзе ў радасных крыках,
сьпевах
Вырастаюць сасновыя хаты.

Разьліліся дзіцячыя песьні,
Маладыя, бадзёрыя словы...
...Тут жыцьцё малажавае весьніць
Як вясна напрадвесьні—дубровы.

У працы цяжкай цьвітуць надзеі,
на руінах мінуўшчыны шэрай
У клапотах штодзенных дзеяў
Ён знаходзіць запал і веру.

Вочы гострыя зьмяты твар,
Бурай мужнай
жыцьцёвай дарогі;
У рысах цьмяных упартасьць,
гарт
Нашай гордай бунтоўнай эпохі.

* * *

Ён помніць жах
і бойкі Перакопу.
Хавае шмат глыбокіх
штурмаў памяць.
І сёньня ў новых бойках і
акопах
Куе комуну ўпартымі рукамі.
У рытмах бур
ня зломяць ветры гарту.

І колькі іх адважных, маладых...
Гартуе моц
уздым колён упартых
Нас ў творчы бой
паклікалі гады.

На штурмах дзён,
у баёх соцыялізму
Услаў іх верш,—
натхнёны агітатар!
Гратнітнай верай,
сілаю вялізнай
Ўздымаць вышэй
над краем сьцяг узьняты.

У грудзёх жыве
уздым бунтоўных год
І веліч дум акрэсьленай дарогі.
І калі бурна ў вогненны паход
Пратрубіць край
глыбокую трывогу,
Ён пойдзе зноў з упартасьцю вялікай,
За Перакопам
рушыць Перакоп,
Імчаць з гранатай,
з точанаю пікай,
У рашучы бой
на ворага ў галёп.

Менск, 1931 г.

## СКУЛЬПТУРА З. АЗГУРА



# АДЗІН З МНОГІХ

нарыс
ЮР. ЛЯВОННАГА



Ударнік т. Басаў.

Пятро Іванавіч скрыта ўсьміхаецца ў чарнявыя вусы, асьцярожна зьнімае трэсачку з левага рукава і спрабуе спрачацца з рэдактарам шматтыражкі:

— Ды што там... Лепшыя за мяне ёсьць!.. Колькі я там у майстрах хаджу?..

Гісторыя Пятра Іванавіча Басава—гісторыя ўпартае барацьбы рабочага-самавучкі за падвышэньне кваліфікацыі, за ўдасканаленьне, за набыцьцё тэхнічных ведаў.

Гэта гісторыя паступовага аўладаньня чалавекам сакрэтамі „канвэйера ўласных рук", гісторыя сына клясы, для якой праца сапраўды стала справай гонару, справай славы, справай доблесьці і гэройства.

У гады навальніц, калі нязьлічаныя ворагі імкнуліся задушыць маладую краіну жалезным ашыйнікам інтэрвэнцыі, блёкады, замахаў — Пятро Іванавіч насіў зялёны шлем, патрапаную шынэль і абкруткі.

1919—1920 гады...

33-я Кубанская стралковая дывізія...

Паўднёвая Украіна, Беларусь,—залатапагоньнікі Дзявікіна, легіянэры Шэптыцкага...

Тав. Басаў—у шэрагах Чырвонай арміі, на перадавых пазыцыях.

Аднаўленчы пэрыяд аднатаваўся ў жыцьці Пятра Іванавіча зьменай некалькіх рознастайных прафэсій. Большасьць яго працоўнага часу працякла ў Менску.

У „Вадаканале", у МЦРК, у вайсковым шпіталі, на грамадзкіх работах, на ўкладцы трамвайнай лініі...

У цэхах „Дрэваапрацоўшчыка" тав. Басаў— ка я двох год.

Ён пачаў з укладкі дубовых дошак,—дайшоў да дзяжурнага сушыльшчыка і дасягнуў годнасьці майстра.

— Асьвета ў мяне пачатковая,—уздыхае, гледзячы паверх бяседніка, Пятро Іванавіч,—з тэорытычным багажом тугавата. Да ўсялякае прамудрасьці выключна на практыцы, сваёй галавою прыходзіцца даходзіць!..

— Адклікалі на торф памочнікам загадчыка цэху,—расказваюць таварышы Басава, — ну, хутка і выявілася, што Басаў наш з ягонаю работаю справіцца... І ня дрэнна справіцца!.. Тады і пачаў ён працаваць за „начальніка"!..

Апошнімі часамі тав. Басаў усур'ёз узяўся за самаадукацыю; выпісвае „Электротэхнікум на даму", дасканала праходзіць курс пачатковае партшколы, прапрацоўвае пытаньні тэхнічнай вучобы, зьвязаныя непасрэдна з варштатам.

— Толькі, вось шкода—часу бракуе... Амаль што няма калі і ў кніжку глянуць!—скардзіцца Пятро Іванавіч.

Тав. Басаў—актыўны рабкор цэхавай штодзёнкі і друкаванае шматтыражкі „Молатавец", сябра шмат якіх добраахвотных арганізацый і таварыстваў. Надоечы яго вылучылі ў брыгадзіры па праверцы рэалізацыі сталінскіх прапаноў на заводзе.

Гэта яго—лепшага ўдарніка—за ўзорную акуратнасьць, недапушчэньне спазьненьняў — ня раз прэміявала рабочая грамадзкасьць.

На запытаньне аб хворых баках у рабоце ягонага цэху, Пятро Іванавіч, падумаўшы, адказвае:

— Па рацыяналізацыі мы яшчэ мала чаго робім... Сушыльныя камэры патрабуюць рамонту... Калёрыфэрных труб не хапае, кондэнсатараў...

... У невялічкі пакой заўкому прарэзьлівай трэльлю урываецца гудок.

Твар Пятра Іванавіча адразу робіцца заклапочаным, і, пасвойму, суворым. Пятро Іванавіч нэрвова камечыць між пальцаў недакураную папяросу, і, ужо на хаду, дадае:

— ... загаварыўся я з вамі тут... Заходзьце, калі ласка, заўтра ў цэх! Пакуль...

На анкеце П. І. Басава—майстра сушыльнага цэху—пададзенай напярэдадні XIV гадавіны Кастрычніка ў бюро ячэйкі КП(б)Б—лаканічная і выразная рэзалюцыя:

— „Прыняць".

1-XI—31



П. ШВЭЙДЭЛЬ

# БІОГРАФІЯ
# БАЙЦА

КРАІНА ПАВІННА ВЕДАЦЬ СВАІХ ГЕРОЯЎ



Ударнік т. Крупавец.

I

Людзі вярталіся з фронту

Коні, зораныя цяжкімі пераходамі, ішлі павольна, апусьціўшы галовы. Па гразкай, размытай васеньнім дажджом дарозе капыты коняй капалі ямкі, якія хутка зноў заплывалі. Цяжка ісьці коням. А дарога развварачваецца бяз концу і кожны яе зава от тоіць за сабой новы кавалак шляху, такі-ж цяжкі, як і ўжо пройдзеныя.

Пётра Крупавец ехаў у самай сярэдзіне чалавечага патоку. Конь, уткнуўшы морду ў хвост нечага жарабца, стараўся не адставаць. Халодны васеньні дождж ліў ужо каторы дзень і безрадасны ландшафт быў тым фонам, які адпавядаў настрою людзей.

Пётра разглядаў іх хмурныя твары і гэта не давала забыцца на тое, што здарылася.

Яшчэ некалькі дзён таму назад авангардам кацініся па дарозе сьпевы і пад кавалерыйскія мотывы нават зморвныя коні ішлі весялей. Людзі, пакінуўшы ненавісны фронт, вярталіся да столькі год нябачанай хаты, выратаваўшыся ад сьмерці, везьлі хто матцы, хто жонцы ў падарунак сваё няэгубленае жыцьцё.

— Дахаты!

Людзям надакучыла класьці свае галовы няведама за што. Хопіць! І ня кідаючы зброі, якая складала частку чалавечага гарнітуру, пачалі разыходзіцца па хатах. Армія нібы сьнег пад першымі праменьнямі сонца, пацякла рэчкамі шэрых шынэляў па ўсёй краіне.

І раптам...

Полк абяззброілі раніцою. Толькі пачаў займацца дзень, як у мястэчка, дзе полк адпачываў, увайшлі аўстрыйцы, а з імі як быццам і расейскі атрад, які называў сябе „гайдамакамі".

Былі перамовы, былі пагрозы з абодвых бакоў, але нарэшце полк зброю здаў. Забралі і лепшых коняй.

І вось абяззброеная чалавечая маса кранулася зноў. Зброя неяк яднала іх, — трымаліся разам, а цяпер кожны выбіраў сабе асабісты шлях. Полк губляў людзей нібы грошы з дыравай кішэні. Першымі адсталі тыя, у якіх забралі коняй. А потым і астатнія пачалі разьяднацца. То адзін, то другі стрымлівалі коняй, зьвярнуўшы з дарогі, кудысьці скакалі. Вечарам, калі змрок напоўз на дарогу, ад палка засталася маленькая горстка коньнікаў.

* *
*

На адной з шматлікіх чыгуначных станцый былой расейскай імпэрыі застанавіўся атрад чырвонагвардзейцаў. Байцы, апранутыя хто ва што, па прынцыпу—хто чым багат, былі ўзброены ня меней страката. Пара—другая гранат на паясу з посьпехам замянялі вінтоўку, калі яе ня было. Наган бяз кобура, засунуты за гэты-ж пояс, абываталяй прывыкшых за яго скуранага адзеньня, непакоіў за тры вярсты, непакоіў нават больш за страшэнныя гранаты.

Праз некалькі гадзін атрад пакоціць на цягніку супроць ворага, а пакуль...

А пакуль сьпявалі, латалі вопратку, зброю прыстрэльвалі і... мітынгавалі:

— Няхай жыве рэволюцыя!

Адзін з чырвонагвардзейцаў, шпарка ідучы па пэрону, раптам затрымаўся каля салдата, які вось ужо некалькі хвілін з цікавасьцю пагдядваў на гаманлівы атрад.

— Пётра!..

Далоні рук бразнулі і між землякамі пашла гарачая гутарка. А калі цягнік, цяжка ўздыхаючы, крануўся з месца, Пётра Крупавец разам з усім атрадам засьпяваў. Пад урачыстыя гукі атрад чатырнаццаць год таму назад ехаў біцца за лёс Кастрычніка. І Пётра Крупавец стаў баявой адзінкай шматмільённай арміі рэволюцыі. Гады былі, нібы бомбы, выбуховай матэрыяй, нашпігаваны барацьбой, і аб другім ня было думак.

Супроць Дзянікіна білася Чырвоная армія, замест дробных Чырвоных атрадаў. Крупавец камандаваў эскадронам і ня раз прыходзілася ачышчаць станіцы ад белай нечысьці. А барацьба была жорсткая, у ніжня-донскай вобласьці, дзе прыходзілася ваяваць з ашэльмаваным белай косьцю казацтвам,—на літасьць не разьлічвай.

І было:

Станіцу—Ніжні Кардзаіл—рвалі на часткі. То белыя выбіваюць чырвоных, то чырвоныя белых. Так восем разоў. І калі, нарэшце, чырвоныя ўжо сапраўды заваладалі ёю, дык знайшлі сваіх 400 таварышоў, у час боек, папаўшых да белых у палон. Белыя, каб ня сьцёрлася памяць аб іх, расстралялі чырвонаармейцаў. Чырвоныя знайшлі 400 мерцьвякоў.

І на новым фронце,—супроць белапалякаў,—Крупавец шчыра плаціў на гэтым непазабытым рахунку. Ня сьцёрлася памяць аб чатырохсот.

II

1925 год. Грамадзянская вайна, у якой былі заняты мільёны чалавек, даўно скончылася і вялізарная армія ваявала цяпер за рэволюцыю ўжо не на палёх краіны, а ў яе прамысловых карпусох. І не аднойчы бывала, што байцы, якія былі з сьмерцю за панібрата, цяпер здавалі. Мірнае жыцьцё ня было ўжо такім мірным, як гэта здавалася на першы погляд.

Яшчэ да таго, як меліся прыбыць лінатыпы, друкарня хадарам хадзіла ад чутак. Напэўна ніхто нічога ня ведаў. Было толькі вядома, што такая машына ўнясе пераварот ва ўсю традыцыйную вытворчасьць цэху. Жартачкі: ні наборшчыка, ні касы... І што гэта толькі будзе.

Калі іх зьбіраў маскоўскі інструктар, чуткі сталі яшчэ больш блытанымі. Наборшчыкі круціліся каля іх, сачылі за рухамі інструктара, мацалі дэталі і нарэшце, частка іх вырашыла:

— З гэткай працай праз пяць год хадзі да бога на паклон — прасіся ў рай.

На лінотып пайшоў наборшчык Крупавец. Пайшоў яшчэ адзін. Растлумачыў інструктар так-сяк як абыходзіцца з машынай і паехаў сабе. А машына замежная, з гонарам, чуць ня так абыйдзешся з ёю, ня хоча працаваць. Ты з ёю і так і гэтак—не адліваюцца радкі.

Лёзунг—„аўладаць тэхнікай" тады яшчэ ня быў вядомы. Але Крупавец зразумеў яго. Пачаў ён меркаваць што да чаго, сачыў як кожная дэталь працуе, якая яе функцыя. Некалькі разоў прышлося разьбіраць машыну.

Аднойчы мэтал з катла сплавіў ціскі дзе адліваюцца радкі і машына стала. Ужо вырашылі запаліць вогнішча пад машынай каб расплавіць сьвінец. Калі-б гэта зрабілі, лінатып на доўгі час выйшаў-бы з строю. Але Крупавец не дапусьціў гэтага, ён рызыкнуў разабраць ціскі. Адкруціў шматлікія вінцікі, шрубачкі ачысьціў часткі ад прыліпшага мэталю, сабраў іх зноў, раней пусьціўшы машыну на халасты ход і ўпэўніўшыся, што машына сабрана правільна, адліў некалькі радкоў тэксту. Усё было ў парадку.

Так вучыўся чалавек валодаць машынай. З кожным годам яна ўсё больш расчыняла перад ім сваё нутро. Трэба было рыхтаваць новых лінотыпістаў і Крупавец перадаваў ім набы-



тыя з такімі цяжкасьцямі веды. Ён ужо быў майстрам цэху і кожны лінотыпіст абавязкова быў яго вучні. І цяпер ён кіруе гуртком маладых лінотыпістаў. У Дому Друку будзе працаваць значная частка і яго вучняў.

Дасканалае веданьне машыны дало магчымасьць т. Крупаўцу прапанаваць каштоўнае рацыяналізатарскае мерапрыемства. Календар, які раней набіраўся ручнымі наборшчыкамі, цяпер набіраецца на лінотыпе. Цяжкасьць была ў тым, што на машыне нельга набіраць памерам менш за тры квадраты. Крупавец дабіўся таго, што машына набірае на 2 квадраты. Трэба ўлічыць напружанае становішча з рабочай сілай, эканомію часу і г. д., каб зразумець каштоўнасьць гэтага мерапрыемства.

Так непакорлівы лінотып здаў перад былым чырвонагвардзейцам, а цяпер майстрам цэху лінотыпаў—Пётрам Крупаўцом.

* * *

Жыцьцё—яно ніколі не становіцца на адпачынак. Яно бесьперапынна зьмяняе нас, зьмяняе асяродзішча, і вось ужо ўчорашняе пачынае забывацца, сёньнешні дзень валодае чалавекам і патрэбна напружваньне памяці, каб далёкае мінулае зноў уваскросла перад вачыма.

Пётра Крупавец, які ў атрадзе Чырвонай гвардыі зварочваў чалавецтва з старой гразкой дарогі на новы, шырокі шлях сваё клясы, працуе цяпер у нашай друкарні. Калісьці ён камандаваў эскадронам коньніцы, сёньня пад яго камандай толькі невялічкі атрад лінотыпаў. І мастацтва кіраваньня імі ня меней складана, чым вадзіць у бой эскадрон.

У бурлівы 17-ты год ён пачаў ствараць сваю геройчную біографію. Шмат прыгожых старонак ёсьць у кнізе яго жыцьця... Але аднэй усё-ж не хапала.

Пётра Крупавец ня быў членам партыі.

Партыя, пад сьцягам якой ён біўся, за праграму якой мільёны ішлі на сьмерць,—гэта партыя ня мела яго ў сваіх шэрагах. Якія-б прычыны ён ня прыводзіў—гэта ня было адказам.

Хіба справа партыі не яго справа? Які бар'ер стаяў між імі і партыяй? Ніякі—аб гэтым кажа яго жыцьцё.

І вось у дні XVI гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі Пётра Крупавец далучыў да сваёй біографіі яшчэ адну каштоўную старонку.

У памяць 400 сваіх, расстраляных за справу партыі таварышоў, партыйны колектыў атрымаў ад яго заяву.

Гэта лёгічны канец ня меней лёгічнага пачатку—уступленьня ў атрад Чырвонай гвардыі чатырнаццаць год таму назад.

# Песьня ПРА ПАРАВОЗ

Ю. БІТУС

Ён у сажы, павольны пад час,
З белымі ліхтароў вачыма,
Ад Уладывастоку да Менску
прымчаў
З грузам цяжкім за плячыма.
Ён паравоз стары,
На тормазах Вэстынгаузу
Прарэзаў тайгу Сібіры,
балотны туман
пад Вязьмай.
Ён паравоз стары
Падбіўся ў дарозе, дый годзе.
Згубіў сваіх крокаў
рытм,
Да нас у дэпо заходзіць.
Сунецца..
Ціха, ціха.
Павольны, нясьмелы, грузны
Цяжка, жалобна дыхае
Доўгай дарогай змучаны.
А мы малаткамі,
бы па слану.
Мяркуем—работы на дзень.
Скідай кашулю і бялізну
Здароўе ўраз наладзім.
Станем брыгадамі
За варштат.
— А ну падстаўляй дамкраты.
Трэба здароўе
тваё паляпшаць
Сілай і воляй—упарта.
Дэпо—гэта буйны,
ударны цэх.

Заходзь наш бягун далёкі.
На опэрацыю панясем
Поршні твае і блёкі.
Будзем рэзаць цябе, кав[illegible]
І песьні сьпяваць пад лё[illegible]
Болю ня будзеш ты адчуваць,
Хоць і не дамо наркозу.
Пройдзе нясьцішным
экспрэсам дзень.
І ў напружаны працай вечар
Вясёлым і радасным загудзеш,
І груз накладзеш на плечы.
Зноў пабяжыш...
Імчы, імчы
На поўнач, на ўсход,
На поўдзень.
Стомішся: моцным гудком
пакліч—
Рабочы вадой напоіць.
Будзеш бярвеньні ізноў цягаць.
Рэйкі, каменны вугаль.
Угрунь па машруту
Урал—Тайга,
Па вобласьцях і акругах.
Угрунь па зямлі,
дзе грымяць агні
Вагранак і домнаў
нястрымных.
Ты прыдзеш,
наладжаны намі
цягнік.
Ты прыдзеш да соцыялізму.

Менск 1931 г.





Уборка ў калгасе.

**РАБОЧЫ ПАСЁЛАК САЎГАСУ „ГІГАНТ“**



**КРАІНА ПАВІННА ВЕДАЦЬ СВАІХ ГЕРОЯЎ**

# ПЕРАМОГА на пуцях

нарыс
С. ГАЛАЕВА

Ад таварнай паказваецца паравоз. Ён хутка імчыць у напрамку да пасажырскага вакзалу. Па меры яго набліжэньня ўа ім усё выразьней вырысоўваецца „СУ 96-64“. Гэта — імя паравозу. Ён сьпяшаецца на зьмену свайму таварышу, каб імчаць дзесяткі зялёных пакойчыкаў далей праз станцыі і гарады.

Раптам насустрач яму з боку пасажырскай, па гэтым-жа самым пуці вылятае другі паравоз СУ 98-79.

Трывожна скалыхнулася паветра і ўдарыла ў вушы рэзкім кароткім сьвістам. Паравоз, які ішоў ад пасажырскай, хутка спыняе рух. Вось ён ідзе юзам. Яшчэ дзесяць мэтраў і паравоз стаіць. Другі-ж налятае... Колы яго круцяцца назад, але паравоз па інэрцыі рушыцца ўперад. Адлегласьць паміж імі хутка скарачаецца... засталося 10, 5, 2 мэтры... яшчэ сэкунда... д-р-ы-г-г-г! Стукнуліся жалезныя волаты... Д-р-ы-г-г!—аддалося ў пачарнелых ад сажы сьценах дэпо.

Ад моцнага ўдару абодвы паравозы адкаціліся назад. Паміж імі зрабіўся пралёт у некалькі мэтраў.

Стаяць паравозы, адзін супроць другога і цяжка сапуць, нібы думаюць над тым, што гэта, ці шкодніцтва ці безадказныя адносіны да справы?

Замест таго каб з грукатам імчацца, па рэйках, наперадзе дзесяткаў вагонаў, СУ 96-64, цяжка ўздыхаючы, ледзь дайшоў да дэпо. І невядома было колькі ён там прастаіць, калі яго вылячаць і ці вылячаць наогул. Паравозаў, з такімі хваробамі дэпо ніколі не рамантавала, іх адпраўлялі на завод.

Зусім скалечаны, заднім ходам, кульгаючы, пайшоў СУ 98-73 да сваёй хаты ў Аршанскае дэпо.

Абодвы паравозы былі сапсаваны аднолькава: парэднія рамы былі моцна пагнуты, пакарэжаны брусы і пажаваны буфэрныя талеркі.

***

— „Разьбіты два паравозы!“—перакідвалася ад аднаго рабочага да другога і хутка гэтая навіна абляцела ўсе цэхі і брыгады дэпо.

— „Разьбіты два паравозы“...—дайшло і да брыгады Лапкоўскага.

Ударнікі моўчкі пераглянуліся.

— „Два паравозы... шостае здарэньне за адзін тыдзень, — вымавіў брыгадзір Лапкоўскі, моцна сьціскаючы ручку малатка.

— „Толькі аддаць пад суд. Ну, як-жа гэта пусьціць насустрач два паравозы па адным пуці?“—дзівіўся 52-гадовы ўдарнік з сіваватымі вусамі і зубамі белымі, як сьнег. Ён на хвіліну спыніў працу, разгублена паківаў галавой, нешта гаворачы пра сябе, а потым яшчэ шпарчэй пачаў біць 20-ці фунтовым молатам па гарбіне жалезнай рэйкі, нібы на ёй было напісана: „Разьбіты два паравозы“. Ён высока паднімаў молат, нібы хацеў як мага хутчэй расплюшчыць, сьцерці гэтыя словы.

***

Ідучы на абед рабочыя на дзьвярох дэпо чыталі:

„Сёньня ў час абедзенага перапынку адбудзецца мітынг рабочых службы цягі“.

— „Ну, хлопцы, хутчэй шамаць, каб не спазьніцца на мітынг“. Па якім пытаньні павінен быў быць мітынг ніхто ня пытаў. Гэта ўсім добра было вядома.

На мітынгу выступалі шмат рабочых ударнікаў. Гаварылі коратка. Усе думкі былі накіраваны на тое, каб знайсьці прычыны здарэньня, каб зьнішчыць гэтую хваробу чыгункі — псаваньне паравозаў і вагонаў.

Ударнікі патрабавалі ад адміністрацыі правядзеньня іспытаў і інструктажу паравозных брыгад, устанаўленьня пэўных пуцей для падачы паравозаў пад цягнікі з-пад цягніка, з устанаўленьнем суровай адказнасьці за нарушэньне гэтага правіла.

Для машыністаў Макарава і Шэіна, дзяжурнага на станцыі Вараб'ёва—вінаватых у крушэньні — рабочыя патрабавалі суровай кары.

— „Паравоз трэба адправіць на завод, бо ў нашым дэпо і наогул ні ў адным дэпо такі рамонт ніколі не рабіўся. У нашых умовах паравоз адрамантаваць нельга“ — заявіў начальнік дэпо.

У гэты час два рабочых адышлі ў бок. Адзін нешта гаварыў. Другі стаяў і задумёнаківаў галавой, потым ударыў таварыша па плячы і цьвёрда сказаў: „Зробім“.

У іх тварах сьвіцілася надзея на свае сілы — на сілы сваіх брыгад. „Зробім“—гаварыла кожная рыса твару. Лапкоўскага, „зробім“ было бачна ў глыбокіх вачох Гаранскага. Яны моцна націснулі рукі і зноў падыйшлі бліжэй да трыбуны, якую замянаў паравозны кацёл пасярод дэпо. Вакол яго было жывое кола замасьленых куртак і замазаных твараў.

— „Ня трэба адпраўляць паравоз на завод. Мы яго адрамантуем самі“.

Усе павярнуліся ў той бок, дзе стаялі Лапкоўскі і Гаранскі.

— „Мы будзем працаваць у дзьве зьмены без выхадных дзён“—гаварыў Лапкоўскі.

— „К 15 верасьня паравоз будзе здаровым“—дадаў Гаранскі.

Ім не супярэчылі. Ведалі, што калі яны возьмуцца, дык зробяць. І сапраўды—перш чым узяцца за гэтую справу, Лапкоўскі аглядзеў паравоз, абмеркаваў, як пачаць работу, якія пры гэтым будуць цяжкасьці і як іх перамагчы. Не давяраючы сабе, ён парадзіўся з Гаранскім. Той згадзіўся з яго меркаваньнямі і дзьве брыгады кацельшчыкаў узяліся за рамонт.

Брыгады Лапкоўскага і Гаранскага — лепшыя па Менскім дэпо. У брыгадзе па 4 чалавекі. Разам з рабочымі, якія маюць да 30-ці гадоў вытворчага стажу, у брыгадах маюцца і маладыя комсамольцы апошняга выпуску фабзавуча.

Вялікі вытворчы вопыт старых, дапаўняе юнацкі запал і задорная бадзёрасьць моладзі. У брыгадах вельмі добра налажана працоўная дысцыпліна.

— „А ўсё такі гэта рызыкоўна. Няма патрэбных інструмантаў, ды і тэрмін зусім кароткі—13 дзён“—гаварыў немалады, камякаваты рабочы.

— „Зробяць. Не такія хлопцы. Гэтая брыгада чорту рогі скруціць, а ня то што адрамантуе паравоз“,—супярэчыў другі.

Залівіста прагудзеў гудок і брыгады прыступілі да ўдарнага рамонту паравозу.

* * *

Каля папсаванага паравозу таропка бегалі людзі. Паравоз уздрыгваў і гудзеў пад ударамі молатаў.

— „Вось тут трэба падагрэць.

Вугаль кепскі—падкласьці буйнейшага.

—Ваня, стукві гэта месца, ды хутчэй, а то астыне,—адрывіста камандаваў Лапкоўскі. Брыгаднікі адзін перад адным стараліся паказаць сябе. Не пасьпее Лапкоўскі дагаварыць, як ужо молат паднімаецца ўгару і са звонам апускаецца на ўказанае месца.

Бакавіны рамы, нібы скіўіцы вялізарнай жывёлы, выступаюць наперад. Паміж імі стаіць Лапкоўскі. Усім цяжарам цела ён наваліўся на тоўстую рэйку, прыціскаючы яе да разагрэтай да чырвонага колеру бакавіны рамы.

Гэта самы напружаны момант. Трэба даражыць кожнай хвілінай, бо рама хутка астывае, а каб нагрэць яе трэба патраціць некалькі гадзін.



**Фабрыка-кухня саўгасу „Гігант"**

— „Сто-о-й!—крыкнуў брыгадзір—Хопіць!" Усе пабеглі да правай бакавіны рамы. Лапкоўскі прыжмурыў левае вока, нібы браў каго на мушку, паглядзеў уздоўж паравозу, павярнуўся і з задаволенай усьмешкай сказаў:

— „Гатова".

— „Адна гатова"—паўтарыў Лапкоўскі.

— „Зараз пакурым, ды возьмемся за другую".

Але закурваць ён ня стаў. Пачаў падаграваць другую бакавіну.

* * *

Рамонт скончылі за дзесяць дзён. Якасьць рамонту прызнана добрай. Урачыста быў выпраўлены СУ 96-64 з дэпо і накіраваны пад цягнік. Ён узышоў на круг, павярнуўся і пабег у напрамку да пасажырскага вакзалу.

Лапкоўскі і Гаранскі выйшлі на пуць і пільна сачылі за паравозам, які хутка ўразаўся ў далечынь. Ён рабіўся ўсё меншым і меншым і скора зусім зьнік з віду.

Гу-гу!—даляцела ад пасажырскага вакзалу.

Брыгадзіры пераглянуліся. Твары іх пакрыліся самазадаволь-най, радаснай усьмешкай.

— „А аршанцы ўсё яшчэ б'юцца над рамонтам. У іх як быццам, нічога ня выходзіць"—зазначыў Лапкоўскі.

— „Трэба ехаць ім на дапамогу"—адказваў Гаранскі.

— „Добра. Едзем"..

Яны зноў моцна пацiснулі рукі і накіраваліся да начальніка дэпо.

# ВАНДРОЎНЫ ТЭАТР

## У ЛЯГЕРАХ ПАД МАСКВОЙ

Праца Вандроўскага тэатру пад кіраўніцтвам Галубка ў лягерах Маскоўскай акругі прайшла з надзвычайным посьпехам.

Тэатр працаваў у прыцягу $1^1/_2$ месяцаў і пасьпеў даць 46 паказаў. Водзывы, якія выдадзены тэатру, сьведчаць аб тым, што тэатр цалкам выканаў дарученае яму заданьне.

Асаблівую ўдзячнасьць вынес тэатру цэнтральны Дом Чырвонай арміі ў Маскве за тое, што тэатр ня гледзячы на асабліва цяжкія ўмовы лягерных абставін, аддана працаваў ня толькі на сцэне, але і па-за сцэнай, павучаючы чырвонаармейцаў пралетарскім песьням і самадзейнаму мастацтву.

Усе паказы насілі характар вялікіх мітынгаў, дзе прысутнічалі тысячы байцоў, якія прасілі вітаць працоўных Савецкай Беларусі і ўрад, а таксама дзякавалі ўрад за прысылку тэатра ў брацкую рэспубліку.

Працаўнікі Вандроўнага тэатру, у абставінах лягераў, дзе ім прыходзілася рабіць разам з арміяй пераезды пераходы на многа вёрст пеша, даючы паказы і на полі, і ў лесе, удзень і ўвечар, выявілі вялікую вытрыманасьць.

С.С.С.Р.
НАЧАЛЬНИК
ЦЕНТРАЛЬНОГО ДОМА РККА
им. М. В. ФРУНЗЕ
5. Авг. 1931 г.
№ 5/214/рис
МОСКВА
Пл. Коммуны, 2
Тел. [illegible]

Государственный Белорусский передвижной Театр под управлением народного артиста БССР ГАЛУБОК работал в течении июня и июля 1931 г. по заданию Центрального Дома РККА им. М.В.ФРУНЗЕ в лагерях Московского Военного Округа 27 дней и в Парке ЦДКА 9 дней.

Представляя собою крепкий сплоченный коллектив национальной художественной единицы в простых формах показывал национальные Белорусские "примитивы".

Та масса хороших отзывов которую театр получил от красноармейских газет за свою работу безусловно подтверждает успешность выполнения театром задач, которые поставил перед ним ЦДКА.

За всю вполне успешно проделанную Театром в трудных условиях лагерной обстановки работу, за пропаганду массовой пролетарской песни, за товарищескую помощь красноармейской самодеятельности - Центральный Дом РККА приносит всему составу Государственного Белорусского Театра красноармейское спасибо.

Начальник Центрального Дома РККА имени М.В.ФРУНЗЕ [signature] /ПОТНЫХ/

# ТЭХНІКУ ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ НА ВЫШЭЙШУЮ СТУПЕНЬ

Янка ВЯСТОВІЧ

## ЛЕСАТЭХНІЧНЫ ІНСТЫТУТ У ГОМЕЛІ

Вясной 1930 г. у газэтах была надрукавана пастанова ўраду аб заснаваньні ў горадзе Гомелі Беларускага дзяржаўнага лесатэхнічнага інстытуту. Пастанова аб ВНУ глыбока ўскалыхнула пролетарскую грамадзкасьць. Партыйныя, савецкія, профэсыянальныя організацыі заняліся падрыхтоўкай плянаў работы інстытуту і падобрам навуковых працаўнікоў. Рабочыя фабрык і заводаў рыхтавалі патрэбнае абсталяваньне для лябораторый. Гаркомгас вызначаў будынкі.

Прайшло лета. На галоўнай (Савецкай) вуліцы гораду з аднаго з лепшых дамоў прывабна пазірала шыльда з надпісам: „Беларускі Дзяржаўны Лесатэхнічны Інстытут“. 8 лістапада ў часе сьвяткаваньня 13-й гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі інстытут спраўляў урачыстасьць свайго заснаваньня. Дзейнасьць інстытуту з першых-жа дзён набыла вялікі размах. Адбыўся першы прыём адразу на 4 нова-організаваныя аддзяленьні. Апрача ўноў прынятых, у інстытут уліліся студэнты былога лесфаку Беларускай Сельскагаспадарчай Акадэміі. Адначасова разгортвалася завочнае навучаньне.

Соцыялістычнае будаўніцтва паставіла побач з іншымі задачамі і задачу правільнай організацыі лясной гаспадаркі, найбольш рацыянальнага скарыстаньня драўніны, а таксама аблясеньня плошчаў няпрыгодных для земляробства.

Ува ўсёй гэтай рабоце на долю лесатэхнічнага інстытуту выпала вельмі сур'ёзная і адказная задача—падрыхтоўкі кадраў для ўсіх галін лясной прамысловасьці. Абвяшчэньне інстытуту ўстановай усесаюзнага значэньня патрабуе ўзьняцьця работы інстытуту на баявую вышыню, унясеньня ў яе строгай опэрацыйнасьці.

На шляху маладой навуковай установы сустракаюцца і вялікія цяжкасьці. Стаяла нават пытаньне аб перанясеньні дзейнасьці інстытуту ў РСФСР.

Цяпер у інстытуце маецца 5 аддзяленьняў: лесамэханічнае, лесакультурнае, эксплёатацыйнае, хэмічнае і экономічнае.

Вясной гэтага году выпушчана 65 студэнтаў. Зараз навучаецца 355 (з новым асеньнім наборам). На Ўсесаюзнай конфэрэнцыі прадстаўнікоў ВНУ устаноўлена номэнклятура спэцыялізацыі і тыпы спэцыялістаў, якія патрэбны лясной гаспадарцы.

Хэмічнае аддзяленьне аб'яднае тыя віды хэмічнай апрацоўкі, якія базуюцца на экстрагаваньні розных матэрый з сыравіны (драўніны) — каніфоль, дубіцелі. Для праходжаньня практыкі лесахэмікаў у БССР маецца вытворчая база—экстрактна-каніфольны завод у Нова-Беліцы і жывічнаперапрацовачныя заводы ў г. Барысаве і г. Бабруйску, завод дубіцеляў у Рэчыцы. Пэрспэктывы практычнай дзейнасьці надзвычайна вялікія.

У бліжэйшыя часы вызначаецца пабудова комбінату, які будзе складацца з экстракцыйнага заводу і заводу перапрацоўкі шчэпы, якая атрымліваецца з экстракцыйнай перапрацоўкі на цэлюлёзу. Лесакультурнае аддзяленьне мае вялікія пэрспэктывы, бо нам прадстаіць вялікая работа па лесааднаўленьні, а таксама ў сувязі з разгортваньнем соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, па мэліорацыі лесу,

Вытворчай базай у разгортваньні працы лесамэханічнага аддзяленьня, па сваёй спэцыялізацыі (стандартныя будаўнічыя дэталі) зьяўляецца вялізарнейшы дрэваапрацоўчы комбінат у г. Бабруйску і рад дрэваапрацоўчых заводаў. На лесаэкономічным аддзяленьні мэтавая ўстаноўка—экономіка і організацыя лесасыравіннай вытворчасьці.

Вытворчая практыка да гэтага часу была дрэнна пастаўлена. Адсутнічала кіраўніцтва як з боку інстытуту, так і з боку тых прадпрыемстваў, дзе студэнты адбывалі практыку. У сучасны момант вызначаны спэцыяльны працаўнік, які будзе загадваць організацыяй практыкі.

На 1932 г. у плян будаўніцтва ўключана пабудова для інстытуту сталага будынку ў інстытуцкім гарадку. З вясны 1932 г., павінна быць распачата будаўніцтва інстытуцкага вучэбнага корпусу. Інтэрнат ужо будуецца.

Інстытутам узята цьвёрдая лінія на арабочаньне студэнцкага складу. У гэтым годзе былі ўтвораны спэцыяльныя падрыхтоўчыя курсы для рабочых з вытворчасьці. Пры інстытуце ўлетку гэтага году навучаліся дзесятнікі з леспрамгасаў. Інстытут прымае захады да заснаваньня лясного рабфаку з мэтаю папаўненьня студэнцкага складу.

Мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу пролетарскай грамадзкасьці на важнасьць уздыму лясной гаспадаркі і падрыхтоўкі для яе кадраў. Па ўсіх леспрамгасах лесааднаўленьне яшчэ зьяўляецца закінутай галіною, з прымітыўнай вытворчай тэхнікай. У сэнсе машынізацыі работ па лесасеяньні амаль нічога ня зроблена. Між тым у БССР 300 тыс. га пяскоў і бросавых зямель, якія павінны быць аблесены, як мага хутчэй. Для выкананьня гэтай задачы патрэбна вялікая колькасьць стандартных прылад для леспрамгасаў.

На нашу думку, трэба дабудаваць да Гомсельмашу спэцыяльнае аддзяленьне лясных машын і прылад. Для ўзьняцьця работы інстытуту трэба поўнасьцю забясьпечыць катэдры належнымі машынамі і прыладамі. Асноўнаю мэтаваю ўстаноўкаю, на якую інстытут мог-бы орыентавацца ва ўсёй сваёй далейшай дзейнасьці, нам прадбачаюцца лесамашынныя станцыі. Гэту думку мы і выносім на грамадзкае абгаварэньне.



Будынак сталовай саўгасу „Гігант“.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА БССР

Пісьменьнікі на ўборцы бульбы

На здымку: М. Чарот капае бульбу



Менск. т. Семашка на зав. імя Варашылава



Да дзесяцігодзьдзя літаратуркай дзейнасьці А. Жарава

На здымку:
А. Жараў сярод менскіх камсамольцаў



# УССР ХАРКАЎСКІ ТРАКТАРНЫ УСТУПІЎ У СТРОЙ



Беларускія калгасьнікі ў фармовачным цэху



Фармовачны цэх



Кавальскі цэх

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



Яэп Майстэр сярод сваіх таварышоў.



Яэп Майстэр—малалетні, надзвычайна здольны студэнт Менскага Музтэхнікуму.

На здымку: Майстэр з другімі студэнтамі тэхнікуму.



Зварот Чырвонай арміі з манэўраў.



Пабудова Палітэхнікуму ў Менску.

# ШАХМАТЫ № 8

## МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“

**Задача № 15.**

Дэвіз „Даеш 5 у 4“.



Мат у 2 хады

**Задача № 16.**

Дэвіз „Allo von Leningrad“.



Мат у 2 хады

## АКАНЧАНЬНЕ № 1

У папярэдняй групе № 3 усесаюзнага шахматнага турніра, у партыі паміж галоўнымі конкурэнтамі на першае месца Мазэлем (Менск) і Таніным (Масква) атрымалася, пасьля напружанай барацьбы наступнае становішча (гл. дыягр. № 1):

Партыя гэта ігралася ў 4-м туры, у Таніна было перад турам + 3 з 3, у Мазэля + $2^1/_2$. Для Таніна было даволі нічыі, у той час як Мазэлю неабходна выйграць. Атрымаўшаеся становішча нічэйнае. Нельга выйграць белым пры правільнай ігрэ чорных, і наадварот нельга выйграць чорным пры правільнай ігрэ белых.

Нічыя белых не здавальняла і яны зігралі:

| | |
|---|---|
| 1. Ке5—d3!? | С6—с5 |
| 2. Kd3 : b4! | ...... |

Альбо выйграць, альбо праіграць!

| | |
|---|---|
| 2. .......... | a5 : b4+ |
| 3. Кр С3—d2 | Се6 : b3? |

Чорным неабходна была біць канём 3. ... Kd4 : b3 + 4. Кр d2—с2 Kb3—d4 + 5. Кр с2 — ∽Се6 — d7 і чорныя лёгка выграюць. Пасьля гэтага зусім безабіднага ходу, яны праігрываюць.

| | |
|---|---|
| 4. а4 — а5! | С5 — с4 |
| 5. а5 — а6!! | ....... |

Чорныя: Танін



Белыя. Мазэль

Ход белых

**Дыяграма № 1**

Паспрабуйце яе дагнаць.—яна імчыцца са шпаркасьцю кур'ерскага!

| | |
|---|---|
| 5. ...... | с4 — с3 + |
| 6. Кр d2 — c1 | с3 : b2 + |
| 7. Кр c1 : b2 | ........ |

Чорныя прымушаны ахвяраваць слана, інакш белая пешка **аа** праходзіць у фэрзі.

| | |
|---|---|
| 7. ......... | Kd4 — b5 |
| 8. Кр b2 : b3 | Кр d6 — с5 |
| 9. Cg2 — f1 | Kb5 — а7 |
| 10. g3 — g4! | |

Адзіны выйгрышны ход!

| | |
|---|---|
| 10. ........ | f7 — f6 |
| 11. Cf1 — d3! | ...... |

Пагражае 12. h2 — h4 і 13. Cd3 : g6, пасьля чаго пешка h праходзіць у фэрзі.

| | |
|---|---|
| 11. ..... | g6 — g5 |
| 12. f4 : g5 | f6 : g5 |
| 13. Cd3 : h7 | Ка7 — b5 |
| 14. Ch7 — е4 | Kb5 — а7 |
| 15. Се4 — b7 | Ка7 — b5 |
| 16. Cb7 — с8 | Kb5 — а7 |
| 17. Сс8 — а7! | ........ |

Калі-б пасьля гэтага ходу белых, быў-бы зноў іх ход, яны выйгралі-б ходам 18. h2 — h4! Таму іх задачай цяпер, выйграць тэмп.

| | |
|---|---|
| 17. ......... | Кр с5 — d6 |
| 18. Cd7 — е8! | Кр d6 — с5 |
| 19. Се8 — а4! | Ка7 — с8 |
| 20. Са4 — d7!! | Кс8 — а7 |

Атрымалася становішча, якое і патрэбна было белым!

| | |
|---|---|
| 21. h2 — h4 | g5 : h4 |
| 22. g4 — g5 | Кр С5 — d6 |
| 23. g5 — g6 | Кр d6 — е7 |
| 24. Кр b3 : b4 | і Танін здаўся. |

Фінальнае становішча заслугоўвае дыяграмы (№ 2).

Майстарскі праведзены Мазэлем канец.

## VII УСЕСАЮЗНЫ ШАХМАТНА-ШАШАЧНЫ ЗЬЕЗД

### Усесаюзны шахматны турнір

10 кастрычніка ўсесаюзным шахматным турнірам распачаўся VII усесаюзны шахматна-шашачны зьезд.

Усе рэспублікі СССР, усе вобласьці мелі сваіх прадстаўнікоў на гэтым спаборніцтве. Усіх 80, якія разбіты на 8 груп. Амаль ва ўсіх групах моладзь захапіла першыя месцы і вышла ў фінал, які склаўся з 2-х пераможнікаў ад кожнай групы.

У фінал вышлі наступныя таварышы: ад 1-й групы: Юдовіч (Масква); Раўзер (Кіеў); ад 2-й: Кац (Масква), Замыхоўскі (Кіеў) і Гаглідзэ (Тыфліс); ад 3-й Мазэль (Менск) і Ільін-Жэнэўскі (Парыж) [1]; ад 4-й: Каспаран (Тыфліс) і Батвіньнік (Ленінград); ад 5-й Сарокін (Тыфліс) і Алаторцаў (Ленінград); ад 6-й: Готгільф (Ленінград) і Будо (Ленінград); ад 7-й: Раманоўскі (Ленінград) і Кірылаў (Харкаў) і ад 8-й: Лісіцын (Ленінград) і Созін (Ноўгарад).

Перад самым пачаткам спаборніцтваў у фінале, у часе дзелавой часткі зьезду м. Готгільф і м. Раманоўскі зрабілі антыграмадзкія ўчынкі, за што зьезд пастанавіў выключыць абодвых з савецкай шахматнай арганізацыі; першага назаўсёды, другога на год.

Такім чынам засталося 15 чалавек—6 майстроў і 9 прадстаўнікоў моладзі. Для падняцьця якаснага боку турніра на першынство СССР зьезд пастанавіў уключыць **майстра Руміна** (чэмпіёна Масквы), які стаў на адным месцы з Будо, але не папаў па табліцы Бэргера, **гросмайстра Вэрлінскага** — былога чэмпіёна СССР і **м. Багатырчука** — чэмпіёна СССР у 1927-28 годзе.

Фінал распачаўся 25 кастрычніка ў складзе 18 чалавек. Па умовах, якія былі агалошаны перад пачаткам фіналу, усе таварышы, выйграўшыя 50% партый, атрымоўваюць годнасьць майстра СССР. Фінал скончыўся 12 лістапада бліскучай перамогай майстра Батвіньніка (Ленінград), які выйграў $13^1/_2$ з 17, на 2-м месцы м. Румін (Масква) + $11^1/_2$, 3, 4, 5 і 6-е падзялілі мм. Вэрлінскі, Багатырчук, Алаторцаў і Юдовіч па + 10, на 7-м—м. Кан + $9^1/_2$, на 8-м і 9-м мм. Мазэль і Раўзэр, 10 і 11 занялі мм. Лісіцын і Кірылаў + $8^1/_2$.

Усесаюзны шахматны турнір даў 5 новых майстроў — Алаторцаў, Юдовіч, Мазэль, Лісіцын і Кірылаў. Гэта сьведчыць аб тым, што шахматная гульня ў СССР разьвіваецца шпаркімі тэмпамі, што расьце новая раць савецкіх майстроў.

[1] Сакратар савецкага паўпрэдства ў Францыі.

Чорныя: Танін



Белыя: Мазэль

**Дыяграма № 2**

# АСНОЎНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ ПРАЦЫ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ ВСНГ БССР 1928 г. 1931 г.



## ТОРФ аб'яднаньне

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у тыс. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. па пяцігодцы Абсал. | 1928-29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 1.574 | 5.309 | 7.648 | 742 | 1.335 | 2.216 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспубліканскую прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кв. 30 г. абс. | 1931 г. Абсал. | За 3¼ г. (28-29—30 г.) чак. выкан. | За 5 год па пяцігодцы | Выкананьне 5-цігодкі ў 3¼ гады. |
| 509 | 642 | 7.200 | 10.865 | 13.096 | 83,0 |



## МЭТАЛ аб'яднаньне

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у тыс. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. па пяцігод. Абсал. | 1928-29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 15.239 | 43.152 | 39.371 | 3.848 | 6.410 | 8.256 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспубліканскую прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кв. 30 г. абс. | 1931 г. Абсал. | За 3¼ г. (28-29—30 г.) чак. выкан. | За 5 год па пяцігодцы | Выкананьне 5-цігодкі ў 3¼ гады |
| 3.234 | 912 | 5.250 | 13.666 | 23.102 | 59,2 |

## ХЭМ аб'яднаньне

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у тыс. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. па пяцігод. Абсал. | 1928-29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 1.506 | 4 130 | 14.624 | 136 | 905 | 834 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспубліканскую прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кв. 30 г. | 1931 г. Абсал. | За 3¼ г. (28-29—30 г.) чак. выкан. | За 5 год па пяцігодцы | Выкананьне 5-цігодкі ў 3¼ гады |
| 452 | 243 | 3 205 | 5.731 | 12.003 | 47,7 |

# АСНОЎНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ ПРАЦЫ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ ВСНГ БССР 1928 г. 1931 г.



## ЗАПАЛКА аб'яднаньне з дрэваапрацоўчай

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у тыс. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. па пяцігодцы Абсал. | 1928-29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 12.787 | 24.294 | 23 620 | 4.484 | 6.656 | 6 303 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспублік. прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кв. 30 г. абс. | 1931 г. Абсал. | За 3¼ г. (28-29—30 г.) чак. выкан. | За 5 год па пяцігодцы | Выкананьне 5-цігодкі ў 3¼ гады |
| 2.333 | 154 | 790 | 5.391 | 5.790 | 93,1 |



## ПАЛІГРАФ аб'яднаньне

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у тыс. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. па пяцігодцы Абсал. | 1928-29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 2.592 | 13.420 | 4.981 | 347 | 1.316 | 1.420 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспублік. прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кв. 30 г. абс. | 1931 г. Абсал. | За 3¼ г. (28-29—30 г.) чак. выкан. | За 5 год па пяцігодцы | Выкананьне 5-цігодкі ў 3¼ гады |
| 53 | 44 | 883 | 1.469 | 335 | 438,5 |



## СКУР аб'яднаньне

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у тыс. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. па пяцігод. Абсал. | 1928 29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 16.263 | 52.805 | 49.611 | 1.607 | 4.207 | 5.230 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспубл. прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кв. 30 г. абс. | 1931 г. Абсал. | За 3¼ г. (28-29—30 г.) чак. выкан. | За 5 год па пяцігодцы | Выкананьне 5-цігодкі ў 3¼ гады |
| 2.405 | 867 | 1.625 | 8.249 | 10.193 | 80,9 |

# АСНОЎНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ ПРАЦЫ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ ВСНГ БССР 1928 г. 1930 г.





## ШКЛОАБ'ЯДНАНЬНЕ

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у т. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. на пяцігод. | 1928-29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 8.139 | 8,741 | 14.334 | 3.854 | 4.174 | 3 425 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспубліканскую прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кв. 30 г. абсал. | 1931 г. Абсал. | За $3\frac{1}{4}$ г. (28-29—30 г.) чак. выканан. | За 5 год на пяцігодкі | Выкананьне 5-цігодкі у $3\frac{1}{4}$ гады |
| 938 | 387 | 5.050 | 8.371 | 13.675 | 61,2 |

## ШВЕЙАБ'ЯДНАНЬНЕ

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у т. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. на пяцігод. Абсал. | 1928-29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 36 076 | 197.351 | 149.502 | 3.403 | 6.063 | 10.760 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспубліканскую прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кварт. 30 г. абсал. | 1931 г. Абсал. | За $3\frac{1}{4}$ г. (28-29—30 г.) чак. выканан. | За 5 год на пяцігодцы | Выкананьне 5-цігодкі ў $3\frac{1}{4}$ гады |
| 1.546 | 744 | 1.120 | 5.760 | 6.486 | 88,8 |

## ТЭКСТЫЛЬАБ'ЯДНАНЬНЕ

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у т. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. на пяцігод. Абсал. | 1928-29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 13.282 | 33 319 | 14.800 | 3.940 | 4.922 | 6 522 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспубліканскую прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кв. 30 г. абсал. | 1931 г. Абсал. | За $3\frac{1}{4}$ г. (28-29—30 г.) чак. выкан. | За 5 год на пяцігодцы | Выкананьне 5-цігодкі ў $3\frac{1}{4}$ гады |
| 2831 | 670 | 3.205 | 11.099 | 45.953 | 24,1 |

## ГАЛЯНТАРЭЙНАЯ

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у тыс. руб. | | |
|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 192-33 г. на пяцігод. Абсал. |
| 180 | 3.201 | 3.576 |

| Сярэдне-гадав. сьпісачн. кольк. рабочых | | |
|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1930 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 82 | 335 | 367 |

## БУДМАТАР'ЯЛЫ

| Валавая прадукцыя па цэн. 26-27 г. у тыс. руб. | | | Сярэдне-гадав. сьпісачн. колькасьць рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | 1931 г. Абсал. | 1932-33 г. на пяцігод. Абсал. | 1928-29 г. | 1920 г. Абсал. | 1931 г. Абсал. |
| 1.900 | 3.453 | 8 952 | 787 | 1.243 | 2.063 |

| Капіталаўкладаньні ў рэспубліканскую прамысловасьць (у тыс. руб.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. | Асобн. кв. 30 г. абсал. | 1931 г. Абсал. | За $3\frac{1}{4}$ г. (28-29—30 г.) чак. выканан. | За 5 год на пяцігодцы | Выкананьне 5-цігодкі у $3\frac{1}{4}$ гады |
| 1.808 | 1.500 | 8.994*) | 16.847 | 16.921 | 99,6 |

Заўвагі: Капіталаўкладаньні ў 1931 г. на Аб'ядынаньням „Будматар'ялы" і Шклоаб'ядынаньню паказаны разам з укладаньнямі ў будуючыхся прадпрыемствах адышоўшыя да Саюзнай прамысловасьці: цэмэнтнаму—4.000 руб. і механічн. шклозаводу—4.400 руб.

# БЕЛТРАКТАРАЦЭНТР

## РОСТ МТС

| | |
|---|---|
| 1930 год | 6 |
| 1931 год | 33 |
| 1932 год | 72 |



## РОСТ ТРАКТАРОЎ

| | |
|---|---|
| 1930 год | 100 |
| 1931 год | 1018 |
| 1932 год | 2270 |

## РОСТ УНОЎ ЗАСВОЕНЫХ ЗЯМЕЛЬ

| | |
|---|---|
| 1930 год | 500 га |
| 1931 год | 10.000 га |
| 1932 год | 72.000 га |

# ПЕРШЫ САЮЗСЕЛЬТРЭСТ

| | 1930 г. | 1931 г. |
|---|---|---|
| Выканана будаўніцтва | 5.346.000 | 3.190.000 |
| Колькасьць аб'ектаў . | 433 | .598 |
| Рабсіла . . . . . . | 2.500 | 15.000 |

Першы дзяржаўны трэст агульнасаюзнага значэньня па будаўніцтве ў аграмаджаным сэктары сельскай гаспадаркі







# СЬВІНАВОД

### Рух сьвінасаўгасаў, тэрыторыі і засеўных плошчаў

| №№ | Дата | Лік саўгасаў | Наяўнасьць ворыва ў *га* | Засеўная плошча |
|---|---|---|---|---|
| 1 | На 1-V—1930 г. . . . . | 55 | 21.428 | 12.825 |
| 2 | „ 1-I—1931 г. . . . . | 72 | 40.351 | 34.922 |
| 3 | „ 1-X—1931 г. . . . . | 85 | 91.160 | 86.600 |

### Рух рагатаи жывёлы

| №№ п. п. | Дата | Наяўнасьць галоў |
|---|---|---|
| 1 | На 1-V—1930 г. . . . . . . . . | 7.316 |
| 2 | „ 1-I—1931 г. . . . . . . . . | 8.091 |
| 3 | „ 1-X—1930 г. . . . . . . . . | 10.336 |

### Рух рабочай сілы

| №№ п. п. | Дата | Наяўнасьць рабочых |
|---|---|---|
| 1 | На 1-I—1931 г. . . . . . . . . | 2.423 |
| 2 | „ 1-X „ . . . . . . . . . | 9.026 |

### Рух сьвіного пагалоўя

| №№ п. п. | Дата | Наяўнасьць агульнага пагалоўя | Здана таварн. галоў у *цнт* |
|---|---|---|---|
| 1 | На 1-V—1930 г. . . . . | 3.197 | — |
| 2 | „ 1-I—1931 г. . . . . | 26.653 | 6,17 |
| 3 | „ 1-X— „ . . . . | 71.965 | 10.515 |

### Рух будаўніцтва сьвінарнікаў

| №№ п. п. | Дата | Наяўнасьць гатовых сьвінамесц | Знаходзіцца ў пабудове | Разам |
|---|---|---|---|---|
| 1 | На 1-V—1930 г. . . . . | 171 | — | 171 |
| 2 | „ 1-X—1931 г. . . . . | 28.187 | 44.258 | 72.445 |

### Рух жывой і мэханічнай цягавай сілы

| №№ п. п. | Дата | Наяўнасьць коняй | Трактары: Лік | Трактары: НР | Аўтомашын |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | На 1-V—1930 г.. . . . . | 2.336 | — | — | — |
| 2 | „ 1-I—1931 г.. . . . . | 2.765 | 130 | 1.430 | 4 |
| 3 | „ 1-X— „ . . . . | 5.146 | 186 | 2.016 | 44 |



# БЕЛЖЫЛСАЮЗ

| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Агульны абарот Белжылсаюзу на матэрыялах і будаўніцтве . . | — | 417 | 1.552 | 3.375 | 6.793 | 7.500 |
| Дынаміка росту сеткі ЖАКТ'аў . | 101 | 140 | 126 | 82 | 69 | 56 |
| Дынаміка росту членау ЖАКТ'аў. | 5.958 | 8.835 | 11.598 | 12.926 | 16.400 | 33.300 |
| Дынаміка росту арэндаванай жылплошчы (у тыс. *кв. м*) . . . | 268,3 | 324,8 | 375,1 | 420 5 | 470 | 968 |
| Выдана на рамонты (у тыс. руб.). | 523,1 | 879,9 | 1.309.9 | 926,9 | 1.190 | 2.000 |
| Дынаміка росту сеткі ЖБКТ . . | 43 | 72 | 80 | 63 | 53 | 51 |
| Дынаміка росту членаў ЖБКТ. . | 2.285 | 3.546 | 4.219 | 4.347 | 4.750 | 9.200 |
| Заселена новапабудаванай плошчы (у *кв. м*). . . . . . . . | 9.100 | 14.900 | 20.800 | 18.400 | 17.300 | 11.500 |
| Выдана на будаўніцтва па БССР (у тыс. руб.) . . . . . . | 1.066 | 1.730,4 | 2.400 | 1.775 2 | 2.437 | 3.5.0 |

# БЕЛСАЎГАСТРЭСТ

# БЕЛКООП САЮЗ

**Выпуск агулавай прадукцыі у млн. руб.**

| | |
|---|---|
| 1928-29 | 34,8 |
| 1929-30 | 58,2 |
| 1930-31 | 139,1 |

**Колькасьць членаў арцеляй**

| | |
|---|---|
| 1928 | 18.021 |
| 1929 | 33.858 |
| 1930 | 37.302 |
| 1931 | 50.632 |




## КАПІТАЛЬНЫЯ ЎКЛАДАНЬНІ

| | |
|---|---|
| 1928-29 | 350.000 |
| 1929-30 | 2.100.000 |
| 1930-31 | 6.300.000 |

# БЕЛСАЎГАСТРЭСТ

### Асноўныя паказальнікі саўгасаў Белсаўгастрэсту

| | Гады | |
|---|---|---|
| | 1930 | 1931 |
| Колькасьць саўгасаў . . . . | 87 | 101 |
| Агульная зямельная плошча ў *га* | 89.490 | 163.000 |
| У тым ліку ворыва ў *га* . . . | 35.344 | 61.233 |
| . . . сенажаці ў *га*. . . | 22.421 | 58.622 |
| Сярэдні разьмер саўгасаў . . . | 1.028 | 1.620 |
| Агульная засеўная плошча . . | 27.128 | 51.357 |
| Буйнай рагатай жывёлы . . . | 20.125 | 41.378 |
| Прыпадае буйнай рагатай жывёлы на 1 саўгас. . . . . . | 231 | 4.095 |

| | Гады | |
|---|---|---|
| | 1930 | 1931 |
| Лік трактараў . . . . . . . | 94 | 230 |
| Мэханізацыя паляводзтва . . . | 27,6% | 49% |
| Лік крухмальных заводаў . . . | 19 | 13 |
| Атрымана сухога крухм. тон . | 3.894 4 | 4.862 |
| Становішча асноўных капіталаў у тыс. . . . . . . . . | 5.206,3 | 11.444,0 |
| Лік рабочых . . . . . . . . | 6.306 | 8.949 |
| Агуловая прадукцыя ў тыс. руб. | 10.806 | 23.961 |
| Таварная прадукцыя ў тыс. руб. | — | 22.591 |



# РЭАЛІЗАЦЫЯ МАСАВЫХ ПАЗЫК І АШЧАДСПРАВА Ў БССР

## РЭАЛІЗАЦЫЯ МАСАВЫХ ПАЗЫК У БССР

| НАЗВА ПАЗЫК | РЭАЛІЗАВАНА (у тыс. руб.). | | | | У тым ліку | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сярод рабочых і служачых | Сярод сялян | Іншага насельніцтва | Разам па БССР | Горад | Вёска |
| 10% пазыка 1927 год | 403 | — | 627 | 1030 | 1030 | — |
| %% суадносіны | 39,1 | — | 60,9 | 100,0 | 100,0 | — |
| Пазыка ўмацн. сел. гасп. | 374 | 1860 | 152 | 2380 | 526 | 1860 |
| %% суадносіны | 15,7 | 77,9 | 6,4 | 100,0 | 22,1 | 77,9 |
| 1-я пазыка індустрыял. | 1905 | 243 | 554 | 2702 | 2459 | 243 |
| %% суадносіны | 70,6 | 8,9 | 20,5 | 100,0 | 91,1 | 8,9 |
| 2-я паз. індустрыял. | 8464 | 646 | 1154 | 10264 | 9618 | 646 |
| %% суадносіны | 82,5 | 6,3 | 11,2 | 100,0 | 93,7 | 6,3 |
| 3-я паз. індустрыял. | 14792 | 1728 | 1451 | 17971 | 16243 | 1728 |
| %% суадносіны | 82,3 | 9,6 | 8,1 | 100,0 | 90,4 | 9,6 |
| Пазыка „Пяцігодка ў 4 гады“ | 15291 | 3437 | 1347 | 20075 | 16638 | 3437 |
| %% суадносіны | 76,2 | 17,1 | 6,7 | 100,0 | 82,9 | 17,1 |
| Пазыка „3-ці рашаючы“ | 26454 | 8264 | 2719 | 37437 | 29173 | 8264 |
| %% суадносіны | 70,7 | 22,0 | 7,3 | 100,0 | 78,0 | 22,0 |
| РАЗАМ | 67683 | 16178 | 8004 | 91865 | 75687 | 16178 |
| %% суадносіны | 73,7 | 17,6 | 8,7 | 100,0 | 82,4 | 17,6 |







## АШЧАДСПРАВА У БССР у тысячах руб.

КОЛЬКАСЬЦЬ УКЛАДЧЫКАЎ У ТЫСЯЧАХ



12.2 — 23-24
19.1 — 24-25
20.6 — 25-26
50.0 — 26-27
104.0 — 27-28
224.0 — 28-29
402.0 — 29-30

АСТАЧА УКЛАДАЎ У ТЫСЯЧАХ РУБЛЁЎ



158.0 — 23-24
685.0 — 24-25
1.823.0 — 25-26
3.557.0 — 26-27
6.517.0 — 27-28
11.924.0 — 28-29
18.309.0 — 29-30

## ЗЬВЕСТКІ АБ КОЛЬКАСЬЦІ УКЛАДАЎ І УКЛАДЧЫКАЎ У АШЧАДКАСАХ БССР (у тыс). на 1931 год.

| Колькасьць укладчыкаў | Астача укладаў | Колькасьць ашчаякас |
|---|---|---|
| 586,6 | 21690,9 | 1565 |



„Арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў — цэнтральная задача.

Толькі такім шляхам, шляхам правільнай арганізацыі грамадзка-колгаснай працы будзе па-сапраўднаму перавыхоўвацца ў колгасах учорашні дробны ўласьнік, толькі такім шляхам будуць у арцелях (с-г.) складацца новыя адносіны да працы“ (Якаўлеў).

## БІБЛІОТЭЧКА ПА АРГАНІЗАЦЫЙНА-ГАСПАДАРЧАМУ ЎМАЦАВАНЬНЮ КОЛГАСАЎ.

| | ЦАНА |
|---|---|
| 1. **У. А. Караў.** „Як выкарыстаць конную цягу з трактарам | 15 к. |
| 2. **Хаванскі.** Утрыманьне і выкарыстаньне каня | 40 „ |
| 3. **М. Іваноў.** Асновы кармленьня с-г. жывёлы | 22 „ |
| 4. **П. Палескі.** Чарговыя задачы разьвіцьця сьвінагадоўлі ў калгасах БССР | 20 „ |
| 5. **Навумаў.** Гадоўля і выкармліваньне цялят | 15 „ |
| 6. **Арлоўскі.** Організацыя групавога кармленьня кароў | 12 „ |
| 7. **Асіпава.** Што павінна ведаць даільшчыца | 10 „ |
| 8. **Кіпрыянец.** За вынаходзтва, рацыяналізатарства і масавыя догляды ў сьвінагадоўлі | 15 „ |
| 9. **Я. Варкуноў.** Аб парадку скармліваньня і сіласаваньня кармоў | 3 „ |
| 10. **Клюеў.** Тэхніка вядзеньня малочнай гаспадаркі | 80 „ |
| 11. **Дзьмітрыеў.** Азбука лугаўніцтва | 25 „ |
| 12. **Іванюк.** Палепшаньне насеннага матэрыялу | 12 „ |
| 13. **Кісялёў.** Сейце бабовыя расьліны | 5 „ |
| 14. **Вільямс.** Проблема ўраджайнасьці | 10 „ |
| 15. **Зборнік.** Як організаваць працу ў ільнаводных колгасах | 15 „ |
| 16. **Зборнік.** За пашырэньне плошчы і ўздым ураджайнасьці ільну і канапель | 10 „ |
| 17. **Апрэсянц.** МТС і колгасы | 10 „ |
| 18. **Іваноў.** За зьдзельную працу ў колгасах | 5 „ |
| 19. **Зборнік.** Як організаваць працу ў колгасах | 12 „ |
| 20. **Зборнік.** За правільны колгасны ўлік | 12 „ |
| 21. **В. Удалаў.** Вытворчыя нарады ў колгасах | 15 „ |
| 22. **Зборнік.** Улік у колгасах | 20 „ |
| 23. **Зборнік.** Комсамол за аўладаньне агротэхнікай | 32 „ |
| 24. **Новік.** У барацьбе за колгасныя кадры | 30 к. |
| 25. **Герасімаў.** Аўладай тэхнікай колгаснай вытворчасьці | 7 „ |
| 26. **Рассаднікаў.** Рабочыя рукі соцыялістычнаму будаўніцтву | 5 „ |
| 27. **Шустаў.** Як організаваць зьдзельную работу ў колгасах | 15 „ |
| 28. **М. Хаеў.** Раньняе вырашчваньне гародніны і рассады | 25 „ |
| 29. **Зборнік.** Як захоўваць насеньнікі капусты і корняплодаў | 7 „ |
| 30. **Александраў.** Першая дапамога ў няшчасным выпадку і раптоўных хваробах коняй | 12 „ |
| 31. **Александраў.** Першая дапамога буйнай рагатай жывёле | 12 „ |
| 32. **Ліўшыц.** Трыхіноз сьвіней і меры барацьбы з ім | 14 „ |
| 33. **Ліўшыц.** Хваробы сьвіней і меры барацьбы з ім | 15 „ |
| 34. **Ціон.** Што трэба ведаць сьвінару па вэтэрынарыі | 15 „ |
| 35. **Скіба.** Памятка лесазагатоўшчыка | 22 „ |
| 36. **Круглоў.** Выканаем пляны па сац. жывёлагадоўлі | 20 „ |
| 37. **Кудзінаў.** Адзін з лепшых (разьмеркаваньне даходаў у калгасе) 2,5 арк. | 15 „ |
| 38. **Кудзінаў.** Колгас „Новы шлях“ (папярэдняе разьмерк. даходаў 1931 г.) | 15 „ |
| 39. **Залескі.** Разьмеркаваньне даходаў па працаднёх | 15 „ |
| 40. **Байкоў.** Разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю ў калгасах | 22 „ |
| 41. **Зборнік.** Змаганьне за ўраджай. За вытворчае ўмацаваньне калгасаў. 3 друк. арк. | 15 „ |
| 42. **Зборнік.** Тэхніка сьвінагадоўлі ў масы | 10 „ |

**УСЯ БІБЛІАТЭЧКА КАШТУЕ 7 РУБ.**

**КНІГІ ПРАДАЮЦЦА ВА ЎСІХ КНІГАРНЯХ ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ, СПАЖЫЎКООПЭРАЦЫІ І САЮЗДРУКУ.**

**Калі ў кнігарні ня будзе якіх-небудзь кніжак, то шліце заказ кнігапоштай па адрасу:**

**МЕНСК, РОГ САВЕЦКАЙ І ЛЕНІНСКАЙ ФІЛІАЛ ДВБ.**

Менск. Друк. імя Сталіна. Зак. № 2405. 7.500 экз. Галоўлітбел № 1031.




# МЕНБУД

## ВАЛАВАЯ ПРАД

ПА САБЕКОШТУ (У ТЫС. РУБ.)

| | 26-27 | 27-28 | 28-29 | АСОБ. КВ. | 30 | 1931 | 1932 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1392 | 1525 | 2731 | 1530 | 5596 | 6623 | 11450 |
| З ІХ ПА БУДАЎНІЦТВУ | 1077 | 1125 | 2200 | 1300 | 4520 | 5000 | 8000 |

## РАБСІЛА

| 26-27 | 27-28 | 28-29 | АСОБ. КВ. | 1930 | 1931 | 1932 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 528 ч. | 455 ч. | 706 ч. | 1607 ч. | 2128 ч. | 1750 ч. | 2903 ч. |

# БЕЛКАМУНБАНК

## УКЛАДАНЬНІ Ў БУДАЎНІЦТВА БССР

ВЫДАНА (У ТЫС. РУБ.)

| | 27-28 | 28-29 | 29-30 І АС. КВ. | 1931 ПА ПЛЯНУ |
|---|---|---|---|---|
| ЖЫЛБУДАЎНІЦТВА | 5113,5 | 6546,4 | 9712,3 | 19450,0 |
| КАМУН. БУДАЎНІЦТВА І МЯСЦ. ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ | 3676,1 | 10226,7 | 13974,2 | 24396,0 |

